

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# Наша слова





Газета выходзіць з сакавіка 1990 года    № 26 (514)    27 ЧЭРВЕНЯ 2001 г.




Свята дзяцінства прайшло ў сярэдняй школе № 2 г. Дзятлава. Настаўнікі віншавалі лепшых вучняў, адзначалі іх увагу і старанне не толькі ў вучобе, але і ў дзяжурстве ў сталовай, па школе, іх мерапрыемствах. Тым, хто найбольш адзначыўся, былі ўручаны каштоўныя падарункі. А юныя артысты прадставілі свае нумары мастацкай самадзейнасці, спявалі, чыталі вершы.

**На здымку:** свята дзяцінства запомніцца вучаніцы падрыхтоўчага класа Веранікі Кароль.

**Фота Наталлі Аблажэй, БелТА.**

## Сямён Домаш не захацеў каваць цвік на труну рэжыму, а выкаваў падкову на шчасце Беларусі



23 чэрвеня ў Музеі матэрыяльнай культуры "Дудуткі" ў сёмы раз прайшоў "Фэст старасвецкай культуры".

Галоўнымі ініцыятарамі сёлетняга фэсту выступілі кіраўнік руху "Рэгіянальная Беларусь" Сямён Домаш, Гарадзенскае абласное грамадскае аб'яднанне "Ратуша" і Беларуская асацыяцыя журналістаў, што забяспечыла шырокае прадстаўніцтва усіх рэгіёнаў Беларусі. Менскую эліту рэпрэзантавалі: Вольга Іпатава, старшыня Саюзу Беларускіх пісьменнікаў, народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін, старшыня Беларускага ПЭН-цэнтру Карлас Шэрман, Элеанора Язерская, вядомая гаспадыня музычнага тэлесалона... Былі прадстаўнікі амбасадаў Чэхіі, Германіі, Францыі і ЗША.

Прагграма фэсту ўключала:

Першае рэспубліканскае свята-конкурс "Залатая падкова", які праводзіў Беларускі саюз народных майстроў. У конкурсе ўдзельнічала паўтара дзесятка кавалёў з усіх канцоў краіны.

Сярод розных рамёстваў, пашыраных ў колішнім побыце беларусаў, адно з самых пачэсных месцаў займае кавальства. Без уласнага майстра-каваля не абыходзілася ніводнае паселішча. Добрага майстра ведала ўся акруга, ім ганарылася, яго шанавалі і цанілі. Кавальскае рамяство заўсёды было акружана арэолам таямнічасці і загадкавасці, а каваля параўноўвалі з чараўніком, які валодае цудадзейнымі сакрэтамі апрацоўкі такога непадатлівага матэрыялу, як жалеза.



З часоў сярэднявечча кавальства займала першае месца сярод гарадскіх рамёстваў. Яно ж дало жыццё яшчэ некальким дзесяткам металаапрацоўчых спецыяльнасцей, звязаных з вырабам прылад працы, зброі, прадметаў хатняга ўжытку, абсталявання будункаў і іншага. Тагачаснае кавальства вызначалася еўрапейскім узроўнем.

Сёння кавальства – рамяство рэдкае. Праўда, кавалі ёсць практычна ў кожнай гаспадарцы, але займаюцца яны пераважна рамонтам сельгастэхнікі. Аднак апошнім часам цікавасць да старажытнага рамяства зноў пачала прыкметна расці. Да кавальскага горна ахвотна становіцца моладзь, якая паспяхова адраджае і развівае рамесніцкія і мастацкія дасягненні нашых продкаў-кавалёў.

Журы конкурсу ўзначальваў доктар мастацтвазнаўства, старшыня Беларускага саюза майстроў народнай творчасці Яўген Сахута.

Прызы кавалям уручаліся ў пяці намінацыях:

"За лепшую калекцыю хатніх работ" – прызы атрымалі Юры Фурс, а таксама Вадзім Філатаў і Аляксандр Чумакоў з Берасця.

"За лепшы твор" узнагароджаны бацька і сын Дубіна Аляксандр і Дубіна Дзяніс з Глыбокага, а таксама Міхалевіч.

"За высокае тэхналагічнае майстэрства" прыз атрымалі Аляксандр Адамчык і Іван Квятко з Баранавіч. Іх каманда мела назву "Багрымаў перазвон".

Прыз у гэтай жа намінацыі атрымаў Аляксандр Піразеў з Вілейскага раёна.

Пётр Смалікаў, каваль з музея "Дудуткі" атрымаў прыз "Самаму маладому ўдзельніку", а прыз глядацкіх сімпатый атрымаў Юры Круш з Гародні, які папраўдзе ў конкурсе і не ўдзельнічаў, а за яго час скаваў дзесяткі два сувенірных падковаў і раздарыў іх сімпатычным глядачкам.

На заканчэнне конкурсу за кавальскі молат узяўся Сямён Домаш, дзед якога, аказваецца, быў кавалём. Домаша папрасілі выкаваць цвік на труну рэжыму, але ён з дапамогай Юрыя Круша выкаваў падкову на шчасце Беларусі.

У рамках фэсту адбылася прэзентацыя "Сыраварні", чарговага цэху рамёстваў, створанага музеем "Дудуткі" пры падтрымцы і ўдзеле ЮНЭСКА.

Аздаблялі свята ансамбль "Рагнеда" з Заслаўя і славуты гурт "Палац".

## Геаграфія дзейнасці ТБМ пашыраецца

На апошнім паседжанні Сакратарыяту ТБМ зарэгістраваны Варшаўская (Мазавецкая) суполка ТБМ і суполка ТБМ у Дубровенскім раёне Віцебскай вобласці.

## Рэспубліканская рада ТБМ

1 ліпеня 2001 года ў 11.00 ў Дольнай зале Чырвонага касцёла адбудзецца паседжанне Рэспубліканскай рады ТБМ. На павестцы дня:

1. Справаздачы старшынь камісій ТБМ.
2. Выбары старшынь і фармаванне новага складу камісій ТБМ.
3. Прыняцце пастановы аб падпісанні "Дэкларацыі аб беларускай мове".
4. Зацвярджанне плана дзейнасці ТБМ на 2-е паўгоддзе 2001 года.
5. Урачыстая імпрэза з нагоды 150-годдзя з дня нараджэння Янкі Лучыны.

Беларуская мова-
ТБМ

наша будучыня

## *Ахвяраванні на ТБМ*

1. Суполка "Рэфармацыя" - 70.000 руб.
2. Жучкова Наталля – 10.000 руб.
3. Руткоўская Яўгенія – 6.000 руб.
4. Кааператыў "Амір-С" – 100.000 руб.
5. Карман Анатоль – 5.000 руб.
6. Смілавіцкі с/тэхнікум, студэнты – 9.200 руб.
7. Студэнты БДТУ – 2.848 руб.
8. Петрукозіч Васіль – 4.000 руб.

## Ушануем памяць песняра

28 чэрвеня 1942 года не стала Янкі Купалы. Трагічна абарвалася жыццё народнага паэта. Але памяць народная і сёння свята захоўвае ўсё да драбніц пра свайго Песняра.

Саюз беларускіх пісьменнікаў і Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы запрашаюць усіх жадаючых у гэты дзень, 28 чэрвеня, далучыцца да акцыі ўшанавання памяці Янкі Купалы.

У гэты дзень у 12 гадзін у Чырвоным касцёле святых Сымона і Алены адбудзецца імша, а ў 16 гадзін запрашаем ушанаваць памяць Янкі Купалы каля надмагільнага помніка на Вайсковых могілках (вул. Казлова).

Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы
Саюз беларускіх пісьменнікаў.



Год таму, 7 ліпеня 2000 г. знік наш калега, вядомы тэлеаператар

**Дзмітрый Завадскі**

**Ён здымаў у Чачні, але быў захоплены ў Беларусі. За што? Дзе зараз Дзмітрый Завадскі? Хто менавіта так выкарыстаў ужо год жыцця Дзімы і яго сям'і?**

***Беларуская Асацыяцыя Журналістаў патрабуе праўды пра лёс калегі!***





# Свята роднай вёскі і роднай мовы

Вёска М. Плотніца знайшла свой прытулак сярод лясоў і балот Пінскага Палесся. Вёска з ліку тых, якім наканавана лёсам (а справядлівей было б сказаць бязглуздай палітычнай уладай), павольна паміраць. Напачатку 50-х гадоў М. Плотніца была самай квітнеючай вёскай у акрузе. Лесаўчастак леспрамгасу даваў жыхарам гэтай вёскі добрыя заробкі. І першыя радыёпрыёмнікі, веласіпеды, матацыклы з'явіліся ў жыхароў гэтай вёскі. У вёсцы было многа маладых сем'яў, нараджаліся дзеці, будаваліся новыя дамы, павялічвалася школа. Потым вёска трапіла ў разрад неперспектыўных. З таго часу вёска стала старэць і павольна паміраць. Але людзям, якія тут жывуць, трэба неяк дажываць свой век. І яны жывуць, працуюць, адпачываюць, ладзяць сабе святы. Вось пра адно са святаў і пойдзе кароткая размова.

Ужо стала добрай традыцыяй штогод у дзень Святой Тройцы праводзіць свята вёскі Малая Плотніца. Свята праводзіцца ў вясковым скверы, што ў самым цэнтры вёскі. Сюды збіраюцца ўсе: ад малога да старога. А наладжваюць свята сваім землякам мясцовыя настаўнікі і работнікі культуры. Здавён у вёсцы на дзень Святой Тройцы праводзіўся кірмаш. Гэты дзень быў прыстольным святам. Запрашаліся ў госці родныя і сябры з суседніх вёсак. Традыцыю працягваюць платнічане і сёння. Штогод наладжваецца гэтае свята ў вёсцы. І гэтае свята з'яўляецца святам не толькі вёскі, але і святам роднай мовы. На свяце ўвесь час чуецца беларуская гаворка, гучаць беларускія песні, вершы беларускіх паэтаў. Вядоўцы заўсёды праводзяць свята, розныя культурныя мерапрыемствы і канцэрты, гульні і спаборніцтвы толькі на роднай мове. І гэта невыпадкова. У вёсцы любяць і шануюць родную мову. Трэба сказаць, што захавальнікамі роднай мовы з'яўляюцца настаўнікі мясцовай школы. Яны амаль усе з'яўляюцца сябрамі суполкі "Таварыства беларускай мовы". Трэба нагадаць, што суполка ТБМ гэтай вёскі была створана першай у Пінскім раёне. Менавіта яны, настаўнікі, выхоўваюць любоў і павагу да роднага слова ў сваіх выхаванцаў і іх бацькоў. Трэба вялікім настаўніцкім калектывам па-добраму пазайздросціць ініцыятыўнасці, актыўнасці, нацыянальнай самасвядомасці, дэмакратычным і прагрэсіўным поглядам настаўнікам з М.Плотніцы. Не назваць іх усіх проста было б несправядліва. Іх трэба, што называецца, ведаць асабіста. Гэта настаўніца роднай мовы і літаратуры Марыя Маляўка, гісторыі Іван Разжалавец, прадстаўнікі старэйшага пакалення настаўнікаў Яўгенія і Ігар Марцінкевічы, настаўніцы пачатковых класаў Алена Завадская і Наталля Сідарэвіч, выкладчыца біялогіі Яніна Барысевіч.

У іх дырэктар, настаўніца матэматыкі Надзея Сарока. Яны вялікія патрыёты сваёй роднай вёскі і шчырыя прыхільнікі беларускасці: роднай мовы, культуры, гісторыі. Сярод сяброў суполкі ёсць хатнія гаспадыні, работнікі лясніцтва, медыцыны. Ёсць і рэзервы для росту суполкі. Сябры суполкі ТБМ – актыўныя ўдзельнікі і арганізатары мастацкай самадзейнасці мясцовага клуба. Менавіта яны нясуць на сваіх плячах цяжар правядзення ўсіх культурна-масавых мерапрыемстваў і свят у вёсцы. Шчырае дзякуй ім трэба сказаць за ўсе клопаты па захаванні нацыянальных традыцый і абрадаў, захаванні роднай мовы, культуры і гісторыі.

У арганізатараў свята і яго актывістаў назапашаны багаты досвед. Досвед, якім яны могуць падзяліцца з іншымі. Што яны і робяць. А словы, якімі закончвалася свята, найлепш выражаюць дэвіз і свята, і саміх арганізатараў.

*Жывіце, людзі, для людзей!*
*Усё, што ў вас –*
*аддайце людзям.*
*Як маці малако з грудзей,*
*Яно яшчэ не раз прыбудзе.*
*Жывіце, людзі, для людзей!*
*У сэрцы помсты не сяліце.*
*Цяплом вачэй,*
*святлом надзей*
*На лепшае дабраславіце.*
*Жывіце, людзі, для людзей!*
*Для чалавека, не для рэчы.*
*Жывіце мірна і часцей*
*Вы ўсміхайцеся*
*сустрэчным.*

***Уладзімір Гук, Пінскі раён***

# Так, хлопцы, малойцы!

Добры дзень і дзякуй Вам!

Вельмі своечасова надрукавалі вершык пра Свіслач (пра Юзікаў).

Ужо збіраўся пісаць Вам развітальны ліст, што не змагу падпісацца на 2-е паўгоддзе, але як атрымаў № 24, без сумневу рашыў працягнуць падпіску да канца года. Грошы, дасць Бог здароўе, зараблю. Лепш не з'ем колькі лішніх булак, бо не хлебам адным будзе жыць чалавек, але і словам, найперш родным словам, "Нашым словам". Толькі больш друкуйце, калі ласка, менавіта "народныя" словы (накшталт "Сказа пра Юзікаў", "Дуралесіцы" і да т.п.), гістарычныя артыкулы, навуковыя. Таго ж Ермаловіча, Арлова, Сагановіча, бо колькі не пытаў у кнігарні ў Свіслачы – няма, пісаў у ТБМ у Менск каб прыслалі, дык яны заляжалую макулатуру з 1996 г. шлюць.

Пра Свіслацкага Кузьму крыху напішу, мо не чулі? Яшчэ вясной, калі тыя самыя клумбы ўскопвалі ўсім кагалам, было гэта. У ДЭУ ёсць някепскі хлопец Барыс, на грэйдары робіць, узяў павесіў бел-чырвона-белы сцяжок на антэну радыё, ды дзесь там соваўся па Свіслачы, грэйдаваў вуліцы, бо асфальт і клумбы толькі ў цэнтры на "праспекце Кузьмы", а крыху ўбок і ногі паломіш у ямах. Убачыў той сцяжок Кузьма і пачалося: даў наганяй начальніку ДЭУ той прыляцеў, сарваў і механіку пад нос: "Як ты выпусціў "такую" машыну? Той адразу "тэхагляд" – шмон па ўсёй тэхніцы, усё чырвонае і белае знайсці і зніштожыць. У аднаго ў МАЗе ў кабіне на панэлі чырвоная з белым бліскучая налепка.

-"Садраць!" Здзіралі хлопцы нажыкам амаль гадзіну, бо добра была наклеена. Вось дзе дурдом. Баяцца, сабакі, адзін аднаго.

У пятніцу (15-га) узяў "Наша слова", паехаў у Свіслач, каб зрабіць некалькі ксеракопій "Сказа пра Юзікаў", іду, а на плошчы, каля той самай былой гімназіі стаіць купка мужыкоў, чытаюць ксеракопію і смяюцца.

На пошце дзяўчына: "Што гэта такое? Усе сёння капіруюць. Кажу: "Пакіньце сабе адзін ліст, пачытайце". Глянула: "Не, я эцім не інцярасуюсь".

У вёсцы (раздаў копію таму сяму з сваякоў) -- зусім глухамань, цішыня, балота, некаторыя нават і не чулі, што той бюст Сталіну паставілі.

Рабы глядзяць, як адбыць дзень да вечара, пацягнуць што, загнаць ды выпіць, цюцькі і прысцябаі глядзяць што яшчэ можна пацягнуць з "саўмеснай гаспаркі". Пан (дырэктар саўгаса) свой інтарэс мае: як загнаць збожжа ды бульбу расіянам (бо ўжо з бурта прарасла), каб было за што хату ў Свіслачы збудаваць. Як толькі стане новы дырэктар, дык адразу бяздомны, - пачынае будаваць катэдж у Свіслачы. Матэр'ял, рабсіла, тэхніка дармавая, лаві момант.

Апараты стаяць на хлявах вольна, цісНуць ,хто як можа, у асноўным "спецыялісты" саўгасныя, хто мае доступ да зерня халяўнага. Гэтыя кіпцюрамі будуць трымацца за саўгас, каб толькі не разагналі. Участковы ўсіх ведае, збірае дань (флягу за сезон). Як ён там дзеліцца з раёнам, хто яго ведае, але лішку маці яго тут жа прадае. Алкаголікамі зручней кіраваць і паганяць да светлай будучыні. Так што мафія бессмяротная? Думаю, раз ёсць такія людзі, як Антон Вядзьмак –Свіслагорскі, можа калі і справім хаўтуры па ёй.

На заканчэнне, жадаю Вам усім моцнага здароўя, творчых поспехаў і ўсяго найлепшага. Змагайцеся, не здавайцеся! Дзякуй Вам за Вашу працу.

Ходзяць размовы, што калі Лукашэнка не набярэ галасоў (пра другіх 15 ці 25 прэтэндэнтаў – няма мовы – максімум 1-5%), тэ выканаўцам абавязкаў, а, затым, і прэзідэнтам стане Ярмошын, і ўсё застанецца па старому, а мо і горай.

Зрэшты, пажывём, пабачым, куды нам дзецца з гэтай падводнай лодкі.

*З павагай, Пётр Дырында.*
*18.06.2001 г.*

# Друцку – 1000 гадоў

Аднаму са старажытнейшых на Беларусі населенаму пункту – Друцку, цэнтру старыннага Друцкага княства, што ў цяперашнім Талачынскім раёне, спаўняецца 1000 гадоў. Урачыстасці з гэтай нагоды ёсць таксама і святам 1000-годдзя першага праваслаўнага храма на беларускіх землях. Згодна запісу ў Друцкім евангеллі, сабор тут пабудаваны ў 1001 годзе, ён з'яўляецца адным з самых старажытных у Кіеўскай Русі.

Сёння ў Друцку заканчваецца будаўніцтва царквы Святой Багародзіцы, аналага першага на Беларусі праваслаўнага храма, выконваюцца заказы па выбару яе званоў і крыжоў.

**На здымку:** макет старажытнага гарадзішча Друцк.

**Фота Аляксандра Хітрова, БелТА.**



# Вылепілі Крычаў

Старажытны Крычаў, як яны сабе яго ўяўляюць, вылепілі з гліны юныя ўмельцы гарадской студыі "Свісцёлка". За ўдзел у гэтай працы на раённым конкурсе "Дэбют" дзевяцікласніца сярэдняй школы № 1 горада Каця Анішчанка (на здымку) узнагароджана дыпломам і прэміяй.

**Фота Валерыя Бысава, БелТА.**



# Дзве перамогі

Паехаў я ў Ашмяны (гэта Гарадзенская вобл.) праведаць сваю радню, візіт гэты мой выпаў на 9 траўня – дзень Перамогі. Трапіла на вочы праграма правядзення свята. Сярод шэрагу мерапрыемстваў – дэманстрацыя. Зацікавіўся "як гэта ашмянцы праводзяць шмат кім забытае мерапрыемства?". Усё адбылося ў лепшых традыцыях савецкіх часоў. У калоне прайшлі школы, студэнты, прадпрыемствы і г. д., праўда адсутнічалі партрэты кіраўнікоў дзяржавы. Я не бяруся абмяркоўваць гэта мерапрыемства, - не мая гэта справа, але вельмі ўразіла мяне тое, што ад пачатку і да самага заканчэння дэманстрацыі я не пачуў ніводнага слова па-беларуску ні ад вядоўцаў, ні ад прамоўцаў прывітанняў і заклікаў. Нават фанаграма гучала з расійскіх песень і мелодый. Але чаго гэта мяне так кранула? Здаецца чаго тут здзіўляцца, знявага роднай мовы паўсюдная, але слова Перамога ў гэтыя хвіліны стала ўспрымацца мною з двух бакоў, першы – святая Перамога над фашызмам – другі перамога над беларускай мовай. Можа гэта параўнанне не зусім удалае – але ж так ёсць на самой справе. Прабачце за песімізм, вельмі баліць.

**Святаслаў Палівода, сябра Менскай абласной Рады ТБМ.**





# ЗА САЮЗ САПРАЎДЫ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ

*Вельмі зневажальны для чалавечай годнасці В.М. Іпатавай і яе пісьменніцкай сутнасці артыкул у "Народнай волі" ад 17.04.2001 г. я ўспрыняў душэўна балюча, таму што ведаю гэтую жанчыну і ейную адданасць справам беларускасці. Таму адразу напісаў свой роздум на гэтую тэму. Аднак выступленні Вольгі Міхайлаўны ў "Звяздзе" (04.05. 2001 г.) і новыя прыніжэнні праз прабачэнні перад ёю ў "Народнай волі" выклікалі неабходнасць змяніць першапачатковы змест таго роздуму, што (па прычыне маёй занятасці ў гэты час) крыху зацягнуўся. Але засталася неабходнасць выказаць свае думкі перад пісьменніцкай грамадскасцю, якую я неадноўчы закранаў у друку раней. Лепей было зрабіць тое перад іх з'ездам, тэрмін якога няўмольна набліжаўся. Толькі тое выказванне "Народная воля" не толькі не надрукавала. Яна не палічыла мэтазгодным нават паведаміць мне аб сваім рашэнні. Прычына відавочна: мая пазіцыя адносна В. Іпатавай дыяметральна супрацьлеглая пазіцыі І. Сярэдзіча, аб чым я карэктна напісаў у прыкладзенай да таго маленькага матэрыялу запісцы. Матэрыял праблематычны. Ён не састарэў і яшчэ доўга будзе актуальным. Адзначанае дае мне падставы прасіць Вас надрукаваць яго ў даверанай Вам газеце.*

*01.06.2001 г.*

Пытанне пра існаванне ці неіснаванне Сюза беларускіх пісьменнікаў надуманае. У грамадстве яно не стаіць. І калі б, нават, не было ў апошні час шумнага (гл. "Беларускую деловую газету" ад 27.02.2001 г) раптоўнага збегу Уладзіміра Някляева (старшыні саюза) за мяжу, даволі таленавітых выступленняў Вольгі Іпатавай ("Звязда" №№ 163, 168,173-174 за 2000 год), яе мужнага крыку душы на "рэспубліканскай нарадзе работнікаў культуры" ("Наша слова" ад 14.02.2001 г.) і адносна невялікай колькасці смелых сучасных беларускіх твораў, то наша грамадства ўсяроўна існавала б паралельна з Саюзам, і амаль што не адчувала б прысутнасці пісьменнікаў Беларусі наогул, вядома, - у станоўчым сэнсе гэтага слова. Адмоўнае ж чуецца. І, на жаль, не ў адзіночным ліку. Так, некаторымі (нават народнымі) пісьменнікамі нашай рэспублікі наўпрост ці ўскосна выказваюцца шкадаванні адносна знікнення Савецкага Саюза. Быццам бы не было 20 мільёнаў ахвяр палітычных рэпрэсій, бязлітаснага знішчэння практычна ўсіх цэркваў і іх светароў, ашалелага наступу на так званых "ворагаў народа" з поўным выкарчоўваннем іх роду, хоць тыя "ворагі" з'яўляліся носьбітамі таго Разумнага, Добрага, Вечнага, пры знікненні якога згіне чалавецтва. З пазіцый здаровага сэнсу нельга зразумець і шаноўнага Івана Шамякіна, які сцвярджае: "лепшага перыяду, чым паслеваенны, для развіцця беларускай літаратуры я ўявіць не магу" і "цэнзура (тых часоў – аўт.) ніколі не бракавала цэлыя творы, прыдзіраліся толькі да асобных фразаў, якія можна было без асаблівай цяжкасці выкінуць" ("Звязда" ад 08.05.2001 г.). Тое ж адносіцца і да яго фразы "тады нам дапамагалі – як маральна, так і матэрыяльна", а я "атрымаў Сталінскую прэмію". Але ж Сталінскія прэміі за літаратурную творчасць атрымлівалі і не сумленныя, таленавітыя людзі, сапраўды заклапочаныя лёсам беларускага народа, ягонай праўдзівай мовы, культуры і літаратуры, а (мабыць часцей) карысныя прыстасавальнікі або зусім не здольныя глыбінна бачыць сапраўдную сутнасць той Савецкай улады якую яны ўхвалялі і рашуча падтрымлівалі нават у яе зншчальным цкаванні Аляксандра Салжаніцына. У пісьменніку тады ў значнай колькасці ішлі людзі, якія жылі па савецкаму прынцыпу: адно бачу і чую, другое разумею, трэцяе карысна раблю, чацвёртае даю ў тлумачэнне. За іншае ж – бязлітасна кідалі ў ГУЛАГі як гэта было з сапраўды Вялікай асобай Беларускага народа Ларысай Геніюш. Таму варта б сталінскаму лаўрэату пачытаць і ўнікнуць у звышпакутлівую сутнасць "Споведзі" гэтай сапраўднай гераіні Беларусі, якой праз паўны (думаю – невялікі) час удзячная большасць беларускага народа паставіць самы залаты, самы неўміручы помнік у самым шаноўным месцы. Менавіта ёй, а не тым сталінскім лаўрэатам.

Не апошняе месца ў гэтым Саюзе займае, напрыклад, Мікалай Чаргінец, які ўхваляў асуджаную ўсім светам афганскую вайну. І не проста рабіў гэта, а нават адстойваў правы на тыя ўхваленні, вынікі якіх страшэнныя: некалькі дзесяткаў тысяч загінуўшых і скалечаных толькі беларускіх хлапчукоў, каля мільёна загінуўшых і скалечаных жыхароў самага Афганістана, не падлеглыя ўліку шкода агульначалавечай маралі і, як вынік, - здаецца бясконцая вайна ў гэтай зняважанай камуна-бальшавіцкімі намаганнямі, успетай многімі савецкімі пісьменнікамі і паэтамі краіне. Не разумець гэтага не мог самы сярэдні па розуму чалавек, што пацвердзіў сваімі дзеяннямі Міхаіл Гарбачоў. Таму невыпадкова ў "Народнай волі" яшчэ ў студзені 1996 года я пісаў: "Наши парни погибли или получили увечья в той войне во лжи и ослеплении. Чтобы другие прозрели навсегда. И послали вечные проклятия тем, кто сознательно внедрял и воспевал ее, но еще больше тем, кто разрабатывал ей " теоретическое обоснование". А также тем, кто оправдывает тот разбой сейчас".

Ёсць у Саюзе пісьменнікаў Беларусі (у якасці яго "члена") і Браніслаў Спрынчан, які рашуча заклікае (відаць з праклёнам)

"Так захлебнитесь диссиденты"!!!

Піша, не разумеючы сутнасці гэтага слова. А яно ж зусім не ганебнае. Бо ва ўсім свеце разумецца, што : *"Диссиденты – название участников движения против тоталитарного режима в бывших социалистических странах, ... выступают за соблюдение прав и собод человека и гражданина против преследования инакомыслия, ... протестовали против ввода советских войск в Чехословакию (1968 г.) и Афганистан (1979 г.). ... многие были осуждены по сфабрикованным обвинениям в шпионаже, измене родине, помещены в психиатрические лечебницы, высланы или вынуждены эмигрировать" (Большой энциклопедический словарь. Москва. "Большая Российская энциклопедия". Санкт-Петербург. "Норинт. 1997 г., стр. 361).*

Ёсць у Саюзе пісьменнікаў Беларусі і тыя, хто наўпрост ці ўскосна дапамагае сучаснаму ўладаваму таталітарнаму рэжыму Беларусі ў яго імкненні пакінуць ад Беларусі толькі назву сатанічнымі штурханнямі яе ў склад Расіі, назаўжды зняважыць беларускі народ, як Боскае стварэнне, знішчыць у этнічным сэнсе.

У адпаведнасці з адзначаным зноў жа само сабою ўзнікае пытанне: **ці можа быць што-небудзь станоўчае пры аб'яднанні шчырых барацьбітоў за сапраўдную беларускасць, за яе высокую чалавечую культуру (як, напрыклад, Васіль Быкаў і Вольга Іпатава) з тымі, якія толькі што названы вышэй?**

Сёння вельмі выгадна для дэскрыдытацыі Сюзу звесці яго да матэрыяльна-выгаднага аб'яднання. Можна сказаць, што Саюз пісьменнікаў Беларусі неабходны для захавання хоць якога адзінства ў матэрыяльных мэтах: каб мець пры сабе дом літаратара, дом адпачынку, які часта называюць домам творчасці, і другі магчымы навар. Але ж гэта – маленькія дробязі ў параўнанні з асноўнымі мэтамі сапраўды літаратурнай творчасці ды проста чалавечай годнасці. Адпаведна мне ўспамінаецца лета 1943 года ў час нямецкай акупацыі, калі я быў яшчэ хлапчуком. Маю родную вёску Кледнявічы Дрыбінскага раёна, што на Магілёўшчыне, нямецкія салдаты спалілі. Перад нашай сям'ёй як і перад іншымі з аднавяскоўцаў, паўстаў выбар: застацца ў палоне, прыслужваць немцам, мець ежу і пазбавіць жыццё ад рызыкі знішчэння, ці пайсці ў партызанскі лес, зберагчы гонар, але чакаць кожнае імгненне смерці. Мая маці, Акуліна Емяллянаўна (як і значная колькасць іншых сем'яў) выбрала апошняе. Вядома, прыкладна чацвёртая-трэцяя частка з нас загінула.

Давайце параўнаем тую нашу і сучасную пісьменніцкую рызыку. Тады прыдзем да высновы, што тады стаяла пытанне рызыкі выжывання фізічнага, а зараз мы рызыкуем не выжыць ментальна. Але і тады і зараз пытанне выжывання нацыянальнага стаіць аднолькава.

Таму самая галоўная задача ўсіх сапраўды БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ Саюзу заключаецца ў прыкладванні ўсіх сваіх сіл для захавання роду беларускага ў этнічных і фізічных адносінах і яго ганаровага ўваходжання ў цывілізаваную супольнасць народаў свету. Адзначанае патрабуе неадкладнага адхілення ад улады антыбеларускага рэжыму, спынення знішчэння дзяржаўнай самастойнасці Беларусі праз "суверэннае" далучэннее да Расіі, разумнай эканамічнай інтэграцыі з усімі іншымі дзяржавамі і некаторага іншага, што названа ў артыкуле "Галоўная задача беларускага народа", які ўрэшце рэшт будзе надрукаваны І. Сярэдзічам у "Народнай волі". За Саюз з такімі мэтамі Гісторыя б была ўдзячна нашым пісьменнікам.

І тое, што па рэкамендацыі Быкава начале Саюзу засталася Вольга Іпатава -- найлепшы адказ пісьменнікаў на калялітаратурную і калясаюзную валтузню Лепшай, больш разумна-стрыманай і адначасова рашучай кандыдатуры на пісьменніцкім гарызонце Беларусі пакуль што проста не відаць.

***Аляксей Саламонаў, доктар тэхнічных навук, прафесар. 22.05.2001 года.***

# Трымацца святога сэнсу

Нас, беларускіх пісьменнікаў, сяброў Саюзу – паўтысячы. Чатыры пятых (пад 400 чалавек) жыве ў сталіцы. Астатнія (адна пятая) у іншых гарадах і гарадках. У вёсках і, мабыць, такіх пасёлачках, як мой, - усяго толькі шэсць-восем. Можа – дзесяць?

Пісьменнікаў, нібы, і ёсць і асабліва ў Менску. Гэта і добра. Блізкасць адзін да аднаго павінна спрыяць літаратурна-творчаму жыццю, нараджаць братэрства, узмацняць еднасць у сталіцы. І зручней так сцвярджацца – бліжэй творцам да выдавецтваў і рэдакцый. Можна часцей друкавацца. Ёсць магчымасць удзельнічаць у вечарынах, спрэчках і, безумоўна, у аператыўна-выратавальных працэсах, у заступніцкіх аперацыях. На месцы подпісы сабраць лягчэй, калі толькі існуе ўзаемаразуменне, сяброўства і аднадумства.

Ёсць жа яно ў тых васемнаццаці чалавек, якія падпісаліся пад Заявай у абарону В. Быкава. А што не ўсе? На гэта, мусіць, былі нейкія прычыны, у кожнага свае. Іпатава ж не выдае Загады на смеласць, рашучасць, паслядоўнасць, сумленнасць... Яна і тыя, хто падпісаў, ведаюць, што абараняць ад абразы трэба кожнага сумленнага чалавека, і, нават такую шаноўную і моцную асобу, як В. Быкаў. У любым выпадку яму прыемна, што яго памятаюць, за яго трывожацца сябры.

Можна сказаць і асобна пра Іпатаву. Асоба разумная, інтэлігентная, на апанента не нападзе груба, абражальна, бо разумее, што няма карысці ў гэтым.

Абраза ж не пераканае таго, на каго накіравана, а толькі распаліць нянавісць. Усёроўна ж той апанент не перастане пераканана любіць сябе, тым больш, калі ён абсалютна самаўпэўнены і непрабівальны.

О, калі б у нас, у кожнага абаронцы годнасці заўсёды была яшчэ і пільнасць: абараняючы аднаго, не пакрыўдзіць, не падвесці пад абразу другога.

Але... Глядзім уперад. Прыкінуўшы перад з'ездам пісьменнікаў прыкладна, колькі ў нас пісьменнікаў, дзе хто жыве і працуе, я падумала: безумоўна, сталічная сябрына зробіць свой выбар. І разумна было б, мне здаецца, спыніць, як, напрыклад, на В. Іпатавай. Бо яна – патрыёт, які дбае аб нацыянальнай культуры, якому дорага і памяць, і пытанне: быць ці не быць? А нам жа трэба думаць аб Беларусі. Бо якая ж Беларусь без беларускага сэрца: без мовы і адпаведнай літаратуры? Якая ж славутасць у беларусапісьменніка без адчування Радзімы? Якія лаўры? І хто з мастацкіх творцаў найперш стане ў цэнтр трывогі ў гадзіну ганебнага стаўлення да беларускага слова, калі не разумны пісьменнік-патрыёт? І я задаволена, што не памылілася ў прагнозах і не памылілася ў пісьменніках. Большасць з іх думае так жа, як і я.

Вельмі неабходна прыйсці да ўсеагульнага адкрыцця, што ў любой краіне, дзе ўсё змешана і ніхто, і нішто не вылзяляецца, не ззяе шчырасцю, захапленнем і гонарам, дзе няма сваёй мовы, сапраўднай абароны культуры – няма свайго твару – нецікава жыць, нават чужынцу, калі той небязродны. Нецікава, таму што, як надыйдзе, яму не будзе з кім падзяліцца сваёй патрыятычнай радасцю, яго не зразумеюць.

Ратавацца нам трэба ад абыякавасці і ад памылковага разумення нейкага зборнага сэнсу "патрыятызму". Патрыёт любіць роднае і на гэтай аснове паважае, шануе чужое. Трэба шукаць, знаходзіць і трымацца святога сэнсу разам.

У нас так: колькі сябе памятаю, заўсёды існуе патэтыка самазахаплення. Ах, маўляў, мы любім Радзіму! Гэта значыць нейкую "вялікую" і "малую". Атрымалася, што любові не было? Вялікая Радзіма развалілася... Ад малой мовы не засталося. Не няма ў дзяржаўных установах, няма ў адукацыйных і культурных, няма, напрыклад, у Падсвіллі, на шчырай беларускай зямлі, у школе, дзе я калісьці вучылася. Не чуюць яе ў класных пакоях, на ўроку вучні-нулевічкі. І вышэй – у пачатковых – толькі па аднаму ўроку ў тыдзень. Фонды бібліятэк рускамоўныя. У нашай дзіцячай, напрыклад, толькі два стэлажы беларускіх кніг. Адно – шыльдачкі і назвы выстаў у чытальні на роднай мове. І то гэта ці не таму, што загадчыца Глыбоцкага аддзела культуры ведае і прымяняе яе ў выступленнях.

Зямля ёсць на Глыбоччыне, а паветра – мовы – няма. Якой надзеяй жыць пісьменніку? Хто яго будзе друкаваць? Хто яго будзе чытаць? Якім матэрыяльным дастаткам ён пратрымаецца, каб быць жывым целам і духам?

Хацелася б шчырага сяброўства пісьменнікаў, незалежна, хто на якой мове піша, сяброўства на ніве абароны чалавечай і пісьменніцкай годнасці, роднай мовы, інтэлігентнасці, таленту... І разумнай пазіцыі разумнага патрыёта-кіраўніка. І я ўпэўнена, што апошняе Вольга Іпатава нам гарантуе.

***Марыя Баравік, г. п. Падсвілле.***



Сымон Барыс

# Перад будучыняй

## Сцэнар гістарычна-музычнай вечарыны

*Гэты сцэнар можа быць выкарыстаны для правядзення школьнай вечарыны вучнямі 8-9 класаў або навучэнцамі іншых сярэдніх навучальных устаноў у Дзень беларускага пісьменства і друку. Вечарына можа быць прымеркавана да нагоды беларускага нацыянальнага свята. Рыхтуюць яе настаўнікі гісторыі, беларускай мовы, спеваў і малявання. Калі дазваляе памяшканне, на вечарыну запрашаюцца вучні старэйшых або малодшых класаў. Зала, дзе адбываецца вечарына, загадзя ўпрыгожваецца ў нацыянальным стылі. Калі праводзіцца вясной альбо ўвосень, можна яе аздобіць белымі і чырвонымі кветкамі.*

*Да гэтага дня варта аформіць стэнд, на ім змясціць некалькі вершаў і тэкст:*

**"Беларускі народ самабытны – гэта прызнаюць, нават, і нашы праціўнікі з польскага ці расійскага лагеру. Беларуская дзяржаўнасць таксама мае сваю гісторыю – маю тут на ўвазе Вялікае Літоўска-Беларускае княства. Геаграфічнае палажэнне Беларусі таксама не горшае, як у людзей, ну, хоць бы як палажэнне Швейцарыі. Мы крыху адсунуты ад мора, але і Швейцарыя не мае мора. Дык чаму ж так страшна наша незалежнасць?".**

**Янка Купала. Незалежнасць.**

***"Апрача палітычнай і эканамічнай залежнасці, была і другая прычына, асляпіўшая светапогляд беларуса, - гэта рэлігійная нязгода двух хрысціянскіх абрадаў у нашым карі: каталіцтва і праваслаўя. ‹...›***

***Беларус-каталік ці беларус-праваслаўны павінны тое помніць, што ў іх адна Бацькаўшчына – Беларусь, адна мова родная – беларуская, адны звычаі і абрады, ад веку перадаваныя з пакалення ў пакаленне. ‹...›***

***Помнімо, браты, ці мы каталікі, ці мы праваслаўныя, - мы беларусы, а Бацькаўшчына наша – Беларусь. Не мяшайма справы рэлігіі з нацыянальнасцю".***

***Янка Купала. Вера і нацыянальнасць.***

**"Яно добра, а нават і трэба знаць суседскую мову, але найперш трэба знаць сваю".**

**Францішак Багушэвіч.**

***ПРЫСЯГА МАЛАДОГА БЕЛАРУСА***

***Перад будучыняй нашай,***
***перад родным краем***
***Прысягаю аж да смерці***
***служыць роднай справе,***
***Працай сілай маладою буду памагаці,***
***Каб на попеле нязгоды лёс наш будаваці.***
***Калі ж здарыцца патрэба бараніць краіну,***
***Я да волі для народу пракладу сцяжыну.***
***Бяда, гора мне не страшны, бо нядолю знаю,***
***Дык змагацца за свабоду жыццём прысягаю!***
***Кастусь Акула.***

*Каля стэнда стаіць журнальны столік або стол, на які варта пакласці кнігі аб беларускай сімволіцы і тэксты вершаў і гімнаў.*

**Прыкладны спіс кніг і артыкулаў.**


Заканадаўчыя акты аб дзяржаўнай сімволіцы Рэспублікі Беларусь. Мн., 1992.

Цітоў А. Наш сімвал – Пагоня: Шлях праз стагоддзі. Мн.,1992.

Басаў А.К., Куркоў І.М. Флагі Беларусі ўчора і сёння. Мн., 1994.

Вячорка В. Пра герб і сцяг. Мн., 1993.

Вабішэвіч В. Вывучэнне сімволікі ў школе //Беларускі гістарычны часопіс, 1995, №2.

Государственный герб, флаг, гимн БССР. Мн., 1972.

Статут Вялікага княства Літоўскага 1588. Мн., 1989.

Ткачоў М. Нацыянальныя сімвалы: народ і гісторыя // З гісторыяй на "Вы". Мн., 1991, сс.331-354.

Ткачоў М.А. Беларуская нацыянальная сімволіка // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мн., 1993, сс.391-393.

Жабінская М. Навошта нам чужое "сонейка" //Звязда, 1995, 25 лютага.

Хай стане сэрцам і душой народа // Народная газета, 1992, 15 ліпеня.


*У зале абавязкова павінна прысутнічаць нацыянальная сімволіка – выява герба "Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг. Можна павесіць і транспарант "Жыве Беларусь!". Патрэбна запісаць на магнітафонную стужку беларускія гімны і песні аб Беларусі. Некаторыя песні і гімны можа падрыхтаваць самадзейны гурт вучняў. Апрача выканання гімнаў па ходу сцэнару, на наш погляд, варта вечарыну правесці (калі вядзецца гутарка і чытаецца тэкст) на фоне прыцішанай беларускай музыкі. Для гукавога фону прапануем мелодыю наступных песень: "Беларусь мая" (словы С. Сокалава-Воюша, музыка В. Навіцкага, гл. часопіс "Роднае слова", 1992, №1), "Песня аб Радзіме" (верш Г.Бураўкіна, музыка Л. Барткевіча, гл. часопіс "Беларуская мова і літаратура ў школе", 1991, №5). Гэтыя песні ёсць запісаны ў выкананні Данчыка. Добра было б выкарыстаць тыя (магнітафонныя або грамафонныя) запісы.*

*За сталом, накрытым белым абрусам з чырвонай мярэжкай (альбо паласой) па сярэдзіне, сядзяць у нацыянальным адзенні двое вядоўцаў (юнак і дзяўчына).*

**1-шы вядовец:** - Наша краіна, наш народ мае тысячагадовую дзяржаўнасць. Нам ёсць чым ганарыцца. Нашы далёкія продкі ў IX ст. утварылі Полацкае княства.

**2-гі вядовец:** - А ў XII ст. – Вялікае княства Літоўскае, якое праіснавала амаль да канца XYIII ст. Наша старажытная дзяржава мела ўсе атрыбуты незалежнай дзяржавы: войска, свае законы, органы ўлады, дзяржаўныя межы, уласныя грошы і свой дзяржаўны герб. Здарылася ў XYIII ст. найгоршае: Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае было далучана да Расійскай імперыі, і наш народ страціў незалежную дзяржаўнасць.

**1-шы вядовец:** - Сёння пачатак XXI стагоддзя, а мы, беларусы, усё шукаем нейкі свой дзяржаўны шлях.

**1-шы чытальнік:**

"Перад будучыняй"
Стаім мы перад будучыняй нашай
І ўсё варожым, сочым ейны ход...
Ці ўскрэснем мы,
душою ўпаўшы, звяўшы,
Каб выйсці ў свет, як нейкі здольны род...

Сягоння мы жывём і ўдзень мы блудзім.
Пад маскаю што засляпіла нас,
І што сказаць самім сабе і людзям,
Не ведаем, не можам, хоць і час.

Заціснуты, задушаны, як мышы,
Пад жорсткім венікам, з усіх бакоў,
Шукаем, як сляпыя, не згубіўшы
Таго свайго, што наша ад вякоў.

**2-гі чытальнік:**

Няўжо нас не аб'ясніць розум ясны,
І не пакінем біцца з кута ў кут?
Няўжо кліч вечны будзе ў нас напрасны –
Кліч бураломны: вызваленне з пут?!

**1-шы вядовец:** - Так пісаў наш паэт Янка Купала ў 1922 г., але і сёння гэты верш актуальны.

**3-ці чытальнік:**

Вольнымі ўстаньма з каленяў.
Выбару ў нас няма.
Будучым пакаленням
Больш ня зазнаць ярма.

Родны лес і гоні,
Край азёр, крыніц.
Кліч святой Пагоні
Нам з вякоў звініць.
Уладзімір Паўлаў. Маці Беларусь.

**1-шы чытальнік:** — Наш Дзяржаўны герб "Пагоня" мае вельмі старажытнае паходжанне. Так, у жыцці святога Меркурыя Смаленскага, што адносіцца да XII ст., ёсць звесткі аб выяве народнага героя з мячом на белым кані на дзяржаўных пячатках Полацкага і Смаленскага княстваў у выглядзе святога Меркурыя, які бароніць крывіцкую зямлю ад ворага. Гэта выява, як сцвярджае прафесар Анатоль Грыцкевіч, паходзіць у Полацкай зямлі яшчэ з дахрысціянскіх часоў і ўвасабляла тады постаць славянскага бога сонца Ярылы, якога ў народзе ўяўлялі маладым юнаком на белым кані. Такім чынам, герб "Пагоня" з'яўляецца старадаўнім гербам Полацкага княства, гэтай першай дзяржавы на тэрыторыі Беларусі.

**2-гі чытальнік:** — Пагоня звязана з традыцыяй усходніх славян, калі кожны чалавек быў у адказе за жыццё свайго супляменніка. У выпадку раптоўнага нападу ворагу і захопу ў палон суродзічаў кожны мужчына, які меў права насіць зброю, быў абавязаны пешкі або конна кідацца ў пагоню за ворагам, каб адбіць палон" (М.Ткачоў).

**1-шы вядовец:** - Варта перш-наперш мець на ўвазе сучаснае значэнне выявы вершніка з мячом – як сімвал таго, што на Беларусі былі і будуць адважныя мужчыны, якія заўсёды гатовы са зброяй абараніць сваю маці-Радзіму.

**3-ці чытальнік:** - Прапануем вашай увазе храналогію прызнання знака "Пагоня" ў якасці герба.

Каля 1270 г. знак "Пагоня" ўпершыню зафіксаваны як герб г. Наваградка.

1293 г. наваградскі герб "Пагоня" стаў знакам вялікага князя і гербам Вялікага княства Літоўскага.

1330 г. полацкія князі пачалі карыстацца пячаткай з гербам "Пагоня".

1384 г. Пагоня прынята за дзяржаўны герб Вялікага княства Літоўскага.

1812 г. У часова аднолёным Вялікім княстве Літоўскім – дзяржаўны герб "Пагоня".

1918 г. "Пагоня" прынята за дзяржаўны герб БНР.

1991 г., 19 верасня. Вярхоўны Савет зацвердзіў "Пагоню" ў якасці дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь.

*Хор выконвае песню "Пагоня" (гл. часопіс "Беларуская мова літаратура ў школе" №11 за 1991 г.). Пры гучанні гэтай песні ўсе ўдзельнікі вечарыны стаяць.*

**1-шы вядовец:** - У артыкуле 19 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь сказана: "Сімваламі Рэспублікі Беларусь як суверэннай дзяржавы з'яўляюцца яе Дзяржаўны сцяг, Дзяржаўны герб і Дзяржаўны гімн""

**2-гі вядовец:** - "Дзяржаўным гербам Рэспублікі Беларусь з'яўляецца старажытны беларускі герб "Пагоня", які ўяўляе сабой выяву размешчанага на чырвоным фоне конніка белага колеру, скіраванага ў левы бок, з узнятым мячом і шчытом з крыжам" (Закон Рэспублікі Беларусь аб Дзяржаўным гербе Рэспублікі Беларусь).

**4-ты чытальнік:** - У Беларускай ССР Дзяржаўны герб быў зацверджаны ў 1927 г., а ў 1938 г. быў перапрацаваны. Распрацоўваў беларускі савецкі герб мастак Валянцін Волкаў, родам з Расіі. Па стылі Дзяржаўны герб БССР нагадваў Дзяржаўны герб РСФСР. Ён складаўся з выявы на чырвоным фоне ў промнях узыходзячага сонца сярпа і молата, змешчаных крыжнакрыж рукаяткамі ўніз і акружаны вянком, які складаецца злева з жытніх каласоў, пераплеценых канюшынай і справа – з жытніх каласоў, пераплеценых лёнам, унізе паміж дзвюма паловамі вянка знаходзіцца частка зямнога шара з тэрыторыяй Беларускай ССР. Абедзве паловы вянка перавіты чырвонай стужкай, на якой маюцца надпісы на беларускай і рускай мовах: "Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!" і ніжэй ініцыялы – "БССР".

**2-гі вядовец:** - З герба "Пагоня" непасрэдна вынікае расфарбоўка беларускага сцяга: белы колер "Пагоні" на чырвоным шчыце. Паводле еўрапейскай традыцыі, геральдычныя сімвалы адпаведным колерам пераносяцца на сцяг. Першымі сцягамі з чырвонымі палосамі на белым фоне датуюцца XYI ст. Пад такімі сцягамі нашы продкі ваявалі з туркамі ды Масквой паўтысячы гадоў таму. Акрамя трохпалосых, узнімалі і белыя сцягі з чырвоным крыжам святога Юр'я, апекуна і заступніка Беларусі на нябёсах.

**6-ты чытальнік:** - У песні народнай, якую спявае беларуская моладзь на Юр'я, вобраз Ярылы застаецца ў поўнай красе і свежасці: "Разыграўся Юра конік – залаценькі конік".

"Белы конь або залаценькі конік у народным уяўленні, белы конь у дзяржаўным "Пагоня" – хіба гэта не ёсць наяўны доказ сапраўднага паходжання герба "Пагоня"?

Белы конь у залатых промнях сонца – гэта ёсць вобраз сілы, красы і здатнасці, гэта ёсць сімвал адраджэння і ўваскрэшання да новага жыцця.

Ваяка на белым – гэта ёсць сімвал перамогі.

Белая барва, як уяўленне святла, вельмі пашырана ёсць на Беларусі, згэтуль, мабыць, паходзіць і назва Беларусі – белая, чыстая, вольная, як свет сонца.

Не менш пашырана ёсць на Беларусі і чырвоная барва, як чырвоны ёсць золак на небе перад усходам сонца, згэтуль наш бел-чырвона-белы сцяг, сцяг адраджэння і вызвалення беларускага народу".

(Тамаш Грыб. Да пытання аб паходжанні герба "Пагоня").

Тамаш Грыб быў першым старшынём Выканкаму Рады БНР.

**1-шы вядовец:**

Мой бел-чырвона-белы сцяг –
Зямлі мае краса і слава!
Імкненне ейнае і справа,
Мой бел-чырвона-белы сцяг.

Барвовы шлях зары крывавай,
Нябёсаў гладзь, палёў прасцяг –
Мой бел-чырвона-белы сцяг,
Зямлі мае краса і слава!
Алесь Салавей. Трыялет.

**2-гі вядовец:** - Гербы і сцягі людзі прыдумалі даўно. Рыцары малявалі на шчытах знакі свайго роду – гербы, а да вострай дзіды (кап'я) прывязвалі кавалачкі тканіны, якія і называлі сцягамі. Па гербах на шчытах і па каляровых сцягах вааяры маглі ў гарачым баі пазнаць, дзе свае, а дзе чужынцы. Лічылася войска, якое страціла сцяг, пацярпела паразу і пакрылася ганьбай, а сцяг берaглі, як вока.

**1-шы чытальнік:** - Легенда пра сцяг. Жыў калісьці на Беларусі разумны і мужны князь, якога людзі дужа шанавалі. Ён быў смелы ў баі, наганяў жах на ворага. Аднойчы чужы рыцар параніў князя ў галаву. Рану перавязалі белым палатном, вынеслі князя з поля бою. Але беларускія рыцары пачалі адступаць, непрыяцель ужо радаваўся хуткай перамозе. Тады князь сарваў з галавы скрываўленую павязку, узняў яе высока ў руцэ быццам сцяг, і павёў дружыну ў бой. Вораг не вытрымаў і кінуўся на ўцёкі.

*(Працяг на ст. 6.)*



№ 26 (514) 27 ЧЭРВЕНЯ 2001 НАША СЛОВА

Сымон Барыс

# Перад будучыняй

## Сцэнар гістарычна-музычнай вечарыны

*(Працяг. Пачатак на ст 5.)*

**2-гі чытальнік:** - Паводле даследванняў прафесара Анатоля Грыцкевіча, бел-чырвона-белы сцяг быў вайсковым сцягам беларускіх ваяроў у сярэднявеччы. На першай ва Усходняй Еўропе батальнай карціне (1520 г.) пра бітву пад Оршай 1514 г. выразна відаць шэрагі беларускіх ваяроў з белымі вымпеламі з чырвонай паскай на дзідах. У наступных стагоддзях усе конныя часткі войска Літоўскага і Рускага ажно да канца XVIII ст. мелі белыя сцяжкі. Пасля далучэння Беларусі да Расейскай імперыі, Кацярына II у 80-х гадах XVIII ст. сфармавала з беларускіх ураджэнцаў беларускі гусарскі полк і Полацкі мушкецёрскі полк. Вайсковымі адзнакамі для гэтых часцей былі кукарды з бел-чырвона-белым колерам.

**3-ці чытальнік:** - Бел-чырвона-белы сцяг як беларускі нацыянальны быў прыняты беларускімі рэвалюцыйнымі студэнтамі ў Пецярбургу ў канцы XIX ст. Падчас Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. 10-13 сакавіка ў Менску праводзіліся Дні беларускага значка – свята беларускай мовы і культуры, дзе прадаваліся значкі. Той значок меў выяву бел-чырвона-белага сцяга. Гэты сцяг быў прыняты Усебеларускім з'ездам у Менску ў снежні 1917 г. Вайскоўцы – беларусы на франтах Першай сусветнай вайны надзявалі або ўшывалі ў пятліцы бел-чырвона-белыя стужкі, выконваючы тым самым рашэнне Рады беларускіх культурна-прасветных гурткоў у войску ад 5 жніўня 1917 г. Народны сакратарыят (урад) Беларускай Народнай Рэспублікі зацвердзіў бела-чырвоны-белы сцяг 5 жніўня 1918 г. у якасці дзяржаўнага сцяга Беларусі, зыходзячы з таго, што гэта нацыянальны сімвал.

**4-ты чытальнік:**

Мне чуецца голас душой не забытых вякоў,
Званы даўніны захлынаюцца
у ранішнім звоне.
Мне чуюцца стогны
і цокат вясёлых падкоў
Гарачай віхуры нястомнай
крывіцкай Пагоні.

Беларусь – зямля святая.
Заваёўнікам на страх
У цябе з пляча ўзлятае
Бел-чырвона-белы сцяг.

Дарэмна чакаюць спажыву сваю крумкачы.
Народ богаверны мячамі сустрэне навалу.
З легендаў і з неба сышлі на зямлю крывічы,
Каб свету пазычыць
Скарыну і Янку Купалу.

Мне чуецца поступ трывалых
паганскіх багоў.
І зоры гарацьу далонях багоў светлякамі.
Выходзіць народ,
як рака з маладых берагоў,
І покліч "Жыве Беларусь!" устае над вякамі.

Рыгор Барадулін. Голас вякоў.

*Хор спявае адну з трох песень (гімнаў): "З крыві беларускай" (словы і музыка Сяргея Новіка-Пяюна, гл. часопіс "Беларуская мова і літаратура ў школе", 1991, №№ 7-8, с.158, апошнія два куплеты), "Жыве Беларусь!" альбо "Радзіма Беларусь" (Хай стане сэрцам і душой народа// "Народная газета", 1992, 15 ліпеня).*

**5-ты чытальнік:**

Дваццаць пятага сакавіка –
Годны дзень
Беларускай дзяржавы.
Веснаплынных вятроў талака
Пыл з кароны атрэсла іржавы.
Шматавалі нас досыць арлы
І з адной, і з дзвюма галавамі.
Мы не з нейкай бязроднай імглы,
Нас вякі як сваіх
Гадавалі.
Мы – ратаі святла,
Крывічы,
Верхачы неўміруючай Пагоні.
Маладзік сакалом на плячы,
Гартны меч у цвярдое далоні.
Лучыць нашыя мары рака
Бел-чырвона-белага сцяга.

Дваццаць пятага сакавіка –
Наша свята,
Пароль
І прысяга!

Рыгор Барадулін. 25 сакавіка.

**1-шы вядовец:** - Сцяг БССР ад іншых сцягоў савецкіх рэспублік адрозніваўся спачатку толькі літарамі ССРБ або БССР. У 1951 г. малавядомы рускі мастак Мікалай Гусеў, які жыў на Беларусі, стварыў новы дзяржаўны сцяг Беларускай ССР. Ён уяўляе з сябе палатніну з дзвюх палос: верхняя – чырвонага колеру, ніжняя – зялёнага. На верхняй паласе залатой афарбоўкі зорачка, серп і молат. Каля тронца (флагштока) арнамент белага колеру на чырвоным фоне.

**2-гі вядовец:** - Сярэдні арнаментальны сімвал (сімвал заходзячага сонца) належыць народам Сярэдняй Азіі, а не беларусам. Зялёны колер не характэрны для беларусаў, а з'яўляецц нацыянальным колерам мусульманскіх народаў. Спалучэнне чырвонага і зялёнага колераў парушае правілы еўрапейскай геральдыкі.

**6-ты чытальнік:** - У сярэдзіне 1945 г. у Паставах і Глыбокім моладзь стварыла суполкі "Саюзу беларускіх патрыётаў" (СБП), у які ўваходзіла 37 хлопцаў і дзяўчат. У асноўным гэта былі навучэнцы Пастаўскага педвучылішча. Быў падрыхтаваны статут і тэкст прысягі. Прысяга прымалася на вернасць беларускаму народу перад бел-чырвона-белым сцягам і "Пагоняй". Выява "Пагоні" была намалявана сяброўкай СПБ Алесяй Умпіровіч. Вось за гэта ў 1948 г. яна атрымала 25 гадоў зняволення. За патрыятызм дачкі гараваў і загінуў у лагеры заслужаны настаўнік Беларусі Лявон Умпіровіч. На доўгія тэрміны пазбавілі волі амаль усіх сяброў СБП. Іх адпусцілі толькі ў 1956 г. нашы нацыянальныя сімвалы з канца 20-х гадоў і да жніўня 1991 года ў Савецкім Саюзе былі пад забаронай.

**1-шы вядовец:** – Дата 19 верасня 1991 г. увайшла ў нашу гісторыю. У гэты дзень Вярхоўны Савет БССР пастанавіў называць нашу дзяржаву Рэспублікай Беларусь, а таксама зацвердзіў беларускія нацыянальныя сімвалы – герб "Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг як дзяржаўныя.

**2-гі вядовец:** - Тады ж у верасні беларускія паэты адгукнуліся на такую радасную падзею сваімі вершамі, назваўшы іх "19 верасня 1991 года".

**1-шы чытальнік:**

О, браты і сёстры Беларусі,
Як раздзьмуў шырока абсяг!
То сутонне злое здацца змусіў
Бел-чырвона-белы сцяг.

А святло – нязвычайнае наўкола...
Дзе і дзеўся перад цемрай страх!
То лунае па-над родным домам
Бел-чырвона-белы сцяг.

Ясныя, жывыя далячыні, -
Зноў абрысы набывае шлях.
Павітайма вечны знак святыні –
Бел-чырвона-белы сцяг!

Соф'я Шах.

*Хор спявае песню Уладзіміра Палупанава на ягоны верш "Каб зорка радасці ўзышла":*

Хай беларусаў у гэты час
Шчаслівы сум агорне –
Ізноў вярнулася да нас
І сцяг наш, і Пагоня.

Гл. часопіс "Роднае слова", №4 за 1995 г., с.183)

**2-гі чытальнік:**

Над Беларуссю, што ідзе з нядолі,
Узвіўся бел-чырвона-белы сцяг.
Да Адраджэння, Радасці і Волі
Пазначаны магіламі наш шлях.

І слёзамі асветлена былое,
І новы Дзень ужо не за гарой.
Мы ведаем, што наша, што чужое,
Бо наша ўсё акраплена крывёй.

Збудзіўся люд, што быў душою сонны,
І над сабой паходні запаліў.
І продкаў слаўныя імёны
Належаць нам, як мы – сваёй зямлі.

І хай чужак ад злосці вар'яцее,
Але яму ўжо болей не стрымаць
Пагоні, што ляціць на ліхадзеяў,
Што Беларусь хацелі ў нас забраць.

І хмары рабства разрывае вецер
І выпускае вольнасці зару.
І чуцен кліч на ўсім бялюткім свеце:
Жыве Беларусь!
Жыве Беларусь!

Віктар Шніп.

**3-ці чытальнік:** - Нашы нацыянальныя колеры – белы і чырвоны. Чырвоны колер лічыўся ў старажытнасці сімвалам агню і вечнага жыцця. Гэта колеры беларускай нацыянальнай вопраткі (світак, кашуль, спадніц і фартухоў). Гэта колеры белай кашулі і чырвонага пояса. Гэта колеры нашых ручнікоў і абрусаў, навалачкаў і падзораў. Гэта колеры Уваскрашэння. Нарэшце, гэтыя колеры сімвалізуюць Волю, якую нашы продкі адстаялі ў крывавых бойках. Дык будзем жа і мы даражыць нацыянальным сцягам! Будзем ахоўваць яго як святыню! Зберагайма Волю беларускага народу і незалежнасць Рэспублікі Беларусь!

Хор выконвае песню "Беларусы ўсіх краёў, яднайцеся!" (словы Рыгора Барадуліна, музыка Уладзіміра Давідовіча, гл. штотыднёвік "Літаратура і мастацтва", 1992, 19 чэрвеня, с.9).

**1-шы вядовец:** - Мы, беларусы, дзякуючы ўсяляким гістарычным і палітычным безгалоўям нашай Бацькаўшчыны, вечна цягнуліся ў хвасце сваіх суседзяў ды яшчэ і цяпер не можам у шмат якіх справах раўняецца з імі. Абмінаючы ўсе іншыя недахваткі нашага палітычнага жыцця, я хачу тут звярнуць увагу на справу беларускага нацыянальнага гімну.

Справа гэта вельмі важная... Бо, папраўдзе кажучы, з беларускім нацыянальным гімнам выходзіць нейкая неразбярыха. Мы і маем свой гімн, і не маем, - так пісаў Янка Купала ў артыкуле "Справа беларускага нацыянальнага гімна" ў 1920 г.

**2-гі вядовец:** - З таго часу мінула 75 гадоў, а праблема засталася. Словы нашага народнага песняра гучаць вельмі надзённа і пара на нечым спыніцца, бо гімнаў мы маем дастаткова з дабротнымі тэкстамі і вартымі мелодыямі.

**2-гі чытальнік:** - У розных дзяржавах, нягледзячы на розныя змены, гімны не змяніліся, а засталіся гістарычнымі. Напрыклад, у Германіі – "Дойчлянд, Дойчлянд, юбэр алес", У Польшчы – "Ешчэ Польска не зґінэла", на Украіне – "Щэ не вмерла Украіна, ні слава, ні воля!", у Чэхіі – "Кдэ домов мой", ("Дзе мой дом?"), у Югаславіі – "Гэй, славяне!", у Славакіі – "Гэй, славакі!" і г.д.

**3-ці чытальнік:** - Беларусы мелі самы старажытны гімн у Еўропе, гімн "Багародзіца". Гэтым гімнам нашыя прашчуры пачалі бітву пад Грунвальдам. Гэты гімн стаў каранацыйным гімнам каралеўскай дынастыі Ягелонаў, а на Беларусі быў забаронены і забыты. Доўгі час беларусы свайго нацыянальнага гімну не мелі. Толькі пасля 1905 г., як пісаў Янка Купала, былі спробы стварыць яго. З'явілася на свет божы некалькі гімнаў.

**4-ты чытальнік:** - Пачатак гэтага зрабіў кампазітар Любамір Рагоўскі, які стварыў у 1910 г. музыку да слоў верша Янкі Купалы "А хто там ідзе?" і назваў гэта гімнам. Песня гэта была прызнана за нацыянальны гімн.

**5-ты чытальнік:** - Другім нацыянальным гімнам стала песня, напісання ў 1917 г. Міколам Янчуком на верш Янкі Купалы "Не загаснуць зоркі ў небе" (гл. ноты і тэкст гімна ў газеце "Голас Радзімы" за 31 сакавіка 1994 г.). У Заходняй Беларусі на працягу 20-х гадоў гэты гімн спявалі ў беларускіх школах і гімназіях.

**6-ты чытальнік:** - Ужо ў 1917 г. становіцца папулярным беларускі рэвалюцыйны гімн "Беларуская марсельеза" ("Ад веку мы спалі") (гл.часопіс "Беларуская мова і літаратура ў школе", №10 за 1989 г.). Ён створаны па адных звестках на Случчыне невядомым аўтарам у 1906 г., па другіх пазней – паэтам Язэпам Фарботкам, па іншых – пісьменнікам Уладзіславам Галубком. Песня "Ад веку мы спалі" у Савецкай Беларусі выконвалася на сходах побач з "Інтэрнацыяналам", у Заходняй Беларусі стала гімнам "Беларускай сялянска-работніцкай грамады" і была вельмі папулярнай сярод простага люду. 14 снежня 1929 г. польскія ўлады забаранілі гімн "Беларуская марсельеза" і яго выкананне аб'явілі злачынным актам. На пачатку 30-х гадоў яна знікла з грамадскага побыту і ў Савецкай Беларусі. Фактычна яна была пад забаронай у СССР да канца 80-х гадоў.

**1-шы чытальнік:** - У 1919 г. падчас разгару барацьбы за незалежнасць Беларусі ў менскай газеце "Беларусь" з'явіўся верш Макара Краўцова "Ваяцкі гімн" ("Мы выйдзем шчыльнымі радамі"). Неўзабаве да яго кампазітар Уладзімір Тэраўскі напісаў музыку і песня пачала набываць папулярнасць. Яна стала фактычна "Ваяцкім маршам" слуцких паўстанцаў. Яго можна назваць гімнам БНР. Да 1930 г. ён не забараняўся і ў БССР, толькі другая страфа была перапрацавана Міхасём Чаротам так:

Хай перарве ўсе прапоны,
Наш беларускі родны дух!
Свабоды сцяг, штандар чырвоны,
Пакрый сабой народны дух!

Доля ўсіх аўтараў гэтага гімна аднолькавая, трагічная. Да канца 30-х гадоў яны былі арыштаваны органамі НКУС і знішчаны. Цяпер рэабілітаваны.

*Хор спявае "Ваяцкі марш" (гл.часопіс "Роднае слова" №5 за 1992 г.).*

*Усе ўстаюць.*

**2-гі чытальнік:** - Вельмі папулярны ў нас гімн "Пагоня" на верш Максіма Багдановіча, складзены ў 1916 годзе. Ёсць некалькі мелодый "Пагоні", якія стварылі беларускія кампазітары: Мікола Куліковіч-Шчаглоў, Аляксей Туранкоў, Мікола Равенскі, Уладзімір Мулявін і інш. пакуль найбольш папулярная мелодыя М. Куліковіча-Шчаглова (гл.часопіс "Беларуская мова і літаратура ў школе" №11 за 1991 г.).

**3-ці чытальнік:** - Апрача гэтых агульнанацыянальных гімнаў існуе некалькі гімнаў, якія бытуюць сярод пэўных груп нацыянальнага руху. Сярод іх варта нагадаць жаноцкі гімн "Люблю наш край" (верш Канстанцыі Буйло, музыка Міколы Равенскага, гл. часопіс " Беларуская мова і літаратура ў школе" №1 за 1991 г.), рэлігійны гімн "Магутны Божа" (верш Наталлі Арсенневай, музыка Міколы Равенскага, гл. часопіс "Роднае слова" №5 за 1992 г.), вайсковы гімн – "Стралецкая песня" ("Беларусь – наша маці-краіна") (на словы Н. Арсенневай, музыка М. Куліковіча-Шчагалова), гімн выгнанцаў Савецкай Беларусі "Забраны ў няволю з забранага краю" (на матыў гімна анархістаў), гімн беларускай моладзі "Мы – моладзь" (верш Н. Арсенневай, музыка М. Куліковіча-Шчаглова) і інш.



## Сымон Барыс

# Перад будучыняй

## Сцэнар гістарычна-музычнай вечарыны

**4-ты чытальнік:** - У 1943 г. Урад БССР аб'явіў конкурс на стварэнне нацыянальнага гімну. Але першая спроба не дала вынікаў. У канцы 1949 г. паэт Міхась Клімковіч і кампазітар Нестар Сакалоўскі перапрацавалі песню і толькі 24 верасня 1955 г. яна была зацверджана Указам Прэзідыюму Вярхоўнага Савета БССР у якасці гімну Беларускай ССР. Музыка гэтага гімну і сёння прызнаецца за Дзяржаўны гімн Рэспублікі Беларусь, а тэкст быў адкінуты рашэннем Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 19 верасня 1991 г., бо адлюстроўваў залежнае становішча Беларусі ад Расіі. Тады ім быў аб'яўлены конкурс на новы гімн, бо не быў зацверджаны ні адзін вядомы нацыянальны гімн.

**5-ты чытальнік:** - Конкурсная музычная камісія пры Міністэрстве культуры разгледзела многія прапановы і ў ліпені 1992 г. па беларускім радыё прагучала 7 твораў, якія выносіліся для абмеркавання ў народзе. Шэсць гімнаў (тэкстаў) "Магутны Божа", "Мы выйдзем шчыльнымі радамі", "Пагоня", "Жыве Беларусь", "Радзіма Беларусь" былі надрукаваны ў "Народнай газеце" за 15 ліпеня 1992 г. Апошнія два - новыя творы, а таму даюцца без ука-зання аўтараў. Журы, якое адбірала гатовыя гімны, у 1993 г. аддала перавагу гімну "Маладая Беларусь" (музыка У. Багатырова, на словы Янкі Купалы. Але меркаванні дэпутатаў Вярхоўнага Савета РБ рэзка разышліся, і ні адзін з гімнаў не быў зацверджаны ў якасці дзяржаўнага. І атрымалася так, як пісаў некалі Янка Купала: "І вось з гэтага вялікага ліку гімнаў мы ўсё-такі не маем... прызнанага і ўсвенчанага беларускага нацыянальнага гімну".

**1-шы вядовец:** - Аднак пасля гэтага ў 1994 г. пошукі сталі працягвацца ў новым кірунку. Паэты сталі пісаць вершы, якія можна было б праспяваць на мелодыю паланеза Міхаіла Агінскага "Развітанне з Радзімай" альбо на мелодыю Н. Сакалоўскага "Мы - беларусы".

Мар'ян Віж прапанаваў верш "Мой край" для выканання на мелодыю паланеза Агінскага. (Змешчаны ў ЛіМе, 1994, 19 жніўня).

*Хор спявае:*

Край, мой любы,
родны Край,
Мілей за ўсё на свеце ты.
Квітней, руней, мой слаўны
дзіва - Край.
Для нас ты на зямлі святы.
Край, мой любы,
Родны край,
Не спі, народ, з калень уставай,
Каб кожны бачыў, што ажыла зноў
Краіна - вечная любоў.
Край, "Пагоню" уздымі!
А заўтра спадчыну вазьмі!
З вольнасцю заўжды ты
будзеш жыць,
А нам усім - свой край любіць!
Край, мой любы, родны Край,
Мілей за ўсё на свеце ты.
Квітней, руней,
мой слаўны дзіва-Край,
Для нас ты на зямлі святы.

2-гі вядовец: _ Уладзіслаў Жыгалка з Менску прапанаваў увазе чытачоў штотыднёвіка "Наша слова" верш "Жыве Беларусь!" у якасці гімна Беларусі і прасіў, каб над яго вершам папрацавалі ўсе, хто можа. На працягу 1994 г. вялася клапатлівая праца. І вось чытачы стварылі канчатковы тэкст "Жыве Беларусь!" (Словы народныя, музыка Н. Сакалоўскага).

Хор спявае:

Мы, беларусы - вольныя людзі!
Наша "Пагоня" імчыць у вяках.
Рэе высока сімвал Радзімы -
Бел-чырвона-белы велічны Сцяг.

Прыпеў:
Разам ніколі мы не загінем,
З Богам сустрэнем шчасця зару.
Наша адданасць - вечнай Радзіме.
Хай жа заўсёды жыве Беларусь!

Дружная праца сілу мацуе,
Годнасць гартуе з году ў год.
Веліч Радзімы - мужнасць народа.
Мы - беларусы, слаўны наш род.

Прыпеў:

Край беларускі - шчодры, дзівосны.
Рэкі, азёры чыстыя тут.
Мірна гамоняць бярозы ды сосны.
Слаўце, нашчадкі, родны наш кут.

Прыпеў.

**6-ты чытальнік:** - У "Народнай газеце" за 6 студзеня і 2 сакавіка 1995 г. цікавыя варыянты верша "Жыве Беларусь" Язэпа Мацкевіча і Міколы Запалянскага на музыку Н.Сакалоўскага таксама ў якасці беларускага гімна.

**5-ты чытальнік:** - Камісія Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны на сваім пасяджэнні 20 красавіка 1995 г. прыняла рашэнне, з якога вынікае, што для Дзяржаўнага гімна найбольш пасуе песня "Магутны Божа" М. Равенскага на верш Н. Арсенневай.

**1-шы вядовец:**

Стаім мы перад будучыняй нашай
І ўсё варожым, сочым ейны ход...
Ці ўваскрэснем мы,
душой упаўшы, звяўшы,
Каб выйсці ў свет,
як нейкі здольны род...

*Хор спявае песню "Беларусь, маё сонца" (верш У.Караткевіча, музыка Уладзіміра Палупанава, гл. часопіс "Роднае слова" № 4 за 1995 г., с.180).*

*Два вучні чытаюць або спяваюць:*
Прысягаем Табе мы сягоння,
Што пакуль хоць адзін з нас жыве, -
Нашай слаўнай Крывіцкай Пагоні
Мы ня зганьбім,
мы ўславім яе!

Прысяга (верш Наталлі Арсенневай, музыка Міколы Куліковіча-Шчаглова).

**Заўвага.** *Вам прапанаваны матэрыялы да вечарыны. Зыходзячы з умоў школы або іншай навучальнай установы, варта падысці творча. Сцэнар можна скараціць або падзяліць на дзве часткі так, каб потым правесці асобна вечарыну "Беларускія гімны".*

*Пакуль што цяжка сказаць, у якой школе можа быць праведзена такая вечарына, але ёсць беларускія школы за межамі Беларусі, і на Беларусі часы мяняюцца. Не доўга ўжо быць тут акупацыйнаму рэжыму. Праз колькі месяцаў ізноў залунае бел-чырвона-белы сцяг і загрукоча Пагоня па Беларусі, загучаць нашыя гімны і беларусы пачнуць ізноў людзьмі звацца і можна будзе наладзіць гэтую вечарыну.*

# Думкі Яна Чачота, зусім сучасныя

### "Думкі, якія павінен пашыраць вышэйшы клас"

- Грамадскае шчасце залежыць, як ад добрых грамадзян, так і ад добрага ўраду.

- Не могуць быць добрымі грамадзяне там, дзе кепскі ўрад, і не можа быць кепскага ўрад там, дзе большасць - добрыя грамадзяне.

- Найлепшы ўрад будзе там, дзе ўсё робіцца згодна з пажаданнямі народу, а не па волі капрызу і сілы аднаго.

- Умацаванне добрых можа перамагчы любое ліха: супроць грамадскай думкі зброя і любая сіла - нішто.

- Строгія спосабы ўціску грамадскай думкі не павінны аслабляць сэрца і схіляць да адрачэння перакананняў, а павінны павялічваць супраціўленне гэтаму ўціску, яшчэ больш умацоўваць перакананні, актывізаваць пошукі спосабаў, пры дапамозе якіх можна хавацца ад пераследавання.

- Пераследаванні ўлад зыходзяць не так ад тутэйшай моладзі, як ад духу ўраду, які ўсюды адным і тым жа спасабам прыцiскае моладзь, прыцiскае асвету.

### З "Прадмовы да сялянскіх песень з-над Нёмана"

- Нашы сяляне - люд добры, лагодны, працавіты, пачцівы - павінны абудзіць у нас найпрыхільнейшыя да сябе пачуцці. З імі мы можам быць шчаслівыя. Удзяляючы ім за працу іх рук працы нашага розуму і асветы, мы можам памножыць усеагульнае дабро.

### З "Прадмовы да сялянскіх песень з-над Дзвіны"

- Гарэлка - гэта згуба для нашых сялян.

- Першы гром - з гарэлкі, першае ліха.

- Баліць сэрца, бачачы нешматлікі і самы працавіты клас грамадства, даведзены да такой вялікай беднасці, да якой больш за ўсё прычыніліся з п'янства.

- Яшчэ ўзнаецца - у адной вёсцы з'яўляецца замест аднаго некалькі шынкоў.

- Празмерна ўжыўшы гарэлкі, селянін дзень і два хварэе, а потым зноў п'е для так званага пахмелля. Якое можа быць здароўе, які парадак у хаце?

### З "Прадмовы да сялянскіх песень з-над Нёмана і Дзвіны"

- Для пазнання крывіцкай мовы добра было б паслухаць хатнія размовы сялян, але гэта нялёгка зрабіць апранутаму ў сурдут, хіба калі б пераапрануцца ў сярмягу і пад выглядам селяніна пайсці на вечарыну або ў карчму.

### Зычлівая заўвага для этымолагаў

- Грунтоўнае веданне этымалогіі аберагае ад паспешлівасці тых, хто схапіўшы нейкае падабенства якога-небудзь з нашых слоў да лацінскага, нямецкага і г.д. тут жа ахрышчваюць яго лацінскім, нямецкім. Мы людзі, а значыць - радня. Чалавечая мова, як чалавечыя пачуцці і патрэбы, і неба, і зямля - усюды падобныя, адсюль і падобнасць слоў.

### З ліста да Адама Міцкевіча

**1821 год. Варшава.**

- Здаецца нідзе больш людзі не могуць жыць, як тут, - для жывата і сябе. Словам, усе імкнуцца тут да таго, каб ухапіць у свае хцівыя кіпцюры ці то грамадскае дабро, ці чый-небудзь прыватны набытак, усе рвуць, махлююць, крадуць. У гэтым мастацтве палякі даганяюць ужо рускіх, а можа са сваімі настаўнікамі і зраўняліся.

Ой, каб яны, ведалі, якая небяспечная іх хвароба! Здаецца, людзі гэтыя ў нейкай гарачцы: трызняць, смяюцца, рвуцца да сіл, як хворыя, адпіхваючы ўсялякія лекі.

### "Думкі для ніжэйшага класа"

- Шчасце - гэта найвышэйшая мэта ўсіх імкненняў чалавека: шчасце - ва ўнутранай задаволенасці ад сваёй працы, учынкаў і побыту.

- Асабістае шчасце - у шчасці грамадскім, дбаць пра грамадскае дабро - значыць памнажаць і дабро ўласнае.

- Хто дбае пра грамадскае дабро, інакш кажучы, пра шчасце, асвету і славу краю, хто рады прысвяціць яму самога сябе, аддаць яму ўсе здольнасці і сілы, і маёмасць - з'яўляецца сапраўдным грамадзянінам.

- Сапраўдны грамадзянін паводзіць сябе не толькі згодна з устаноўленым грамадскім законам, але і згодна законам сумлення, маралі і рэлігіі, улада законаў знаходзіць чалавека дома і па-за домам, але ўнутры чалавека няма моцнай спружыны для кіравання яго ўчынкамі. Дык вось там, дзе ўлада законаў і сораму слабыя, там пачынаецца ўлада сумлення і рэлігіі.

- Той, хто прысвячае сваю працу - фізічную ці разумовую - свайму краю, усё робіць для яго дабра і з'яўляецца адначасова карысным грамадству чалавекам і паважаным грамадзянінам. Асвета краю - найважнейшая спружына яго шчасцю, трэба засноўваць школы, ланкастэры.

- Мала гаварыць пра станоўчыя якасці чалавека і вучыць ім, трэба самому даваць ва ўсім прыклад у паводзінах. Бо ніхто так не схіляе да ліхога людскія сэрцы і розум, як ліхія ўчынкі тых, хто воляй лёсу закліканы вучыць просты люд і паляпшаць разбэшчаны свет, хто на словах прапаведуе дабрачыннасць, а ў жыцці заграз у распусце.

### З прадмовы на паседжанні "Таварыства філаматаў"

- Задачы будучага таварыства вельмі шырокія. Пры дапамозе асветы і згуртавання суайчыннікаў яно павінна рабіць дзейсны ўплыў на грамадскую думку, рабіць усё для шчасця і вызвалення Айчыны.

*Падрыхтавала да друку Ала Кажэра г. Менск.*



**Прадстаўнікі абсалютнай большасці беларускіх клубаў з іх рэгіёнаў рэспублікі (каля 70 рыцараў) сабраліся на Замкавай выспе возера Мястра, што непадалёк ад Мядзеля. Тут прайшоў першы нацыянальны рыцарскі турнір "Меч Гедыміна".**

**На здымку:** у час турніру. **Фота Віктара Талочкі, БелТА.**

## Без песні хоць трэсні

У доўгім і складаным працэсе фармавання беларускай нацыі паступова фармавалася і агульнанацыянальная літаратурная мова, у чым вялікую ролю адыграла творчасць В. І. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, Я. Лучыны і іншых пісьменнікаў. Яны абапіраліся на жывую вусную паэзію народу.

Шырока бытавалі ў народзе казкі, легенды, паданні, прыказкі, прымаўкі, загадкі, гульні, песні, прыпеўкі.

Важнейшая функцыя абрадаў утылітарна-магічная: забяспечыць багаты ураджай, прыплод жывёлы, дастатак у хаце. Асаблівай увагі заслугоўваюць валачобныя і восенскія песні, якія найбольш захаваліся ў беларусаў у параўнанні з іншымі народамі. Мэта сямейна-абрадавых песень – палепшыць лёс чалавека, абараніць ад усяго шкоднага, забяспечыць шчаслівае жыццё.

З цягам часу песні адрываліся ад абраду і пачалі выконвацца ў любы час.

Вялікай папулярнасцю карысталіся пазаабрадавыя песні. Яны лірычныя, душэўныя. Яны змяняліся трансфармаваліся і нават ствараліся новыя – рэкруцкія, салдацкія, батрацкія, вясельныя з гумарам.

*Хвала табе, Божа*
*Што мы рана ўсталі*
*Пана ашукалі*
*Нядорага за шлюб узялі…*

Буйнейшы збіральнік і даследчык духоўнай культуры беларускага народа Міхаіл Федароўскі імкнуўся раскрыць жыццё народа ў яго найвышэйшых праявах мудрасці. Ад калыскі да магілы песня была спадарожніцай селяніна.

Спяваў народ у полі, пастух з пугай ў лузе, спявалі жанчыны жнучы. На хрысцінах, вяселлях, кірмашах, чалавек выказваў сваю душу ў песнях, то жалобных, то вясёлых. Песні дзячат абуджалі наваколле, калі яны выходзілі на ўзгоркі "гукаць вясну", ці лірычна плылі па рацэ на Купалле. Тысячы песень аздаблялі розныя абрады, святы, вясковыя ўрачыстасці. Вялікая колькасць песень, якія спявалі водзячы карагоды, іх магічная сіла ўздзеяння на зямлю, прыроду, самая вялікая колькасць песень на Беларусі належыць вясельнаму абраду: заручанскія, каравайныя, сватаўскія, застольныя, зустракальныя ў іх словах і радасць і гора, сум, жарты і падкалупкі:

*Ехалі мы тры мілі,*
*Конікаў патамілі.*
*Ай, там жа мы сталі,*
*Дзе сваіх спазналі,*
*Далі нам піць і есці,*
*На лавачку сесці.*

Колькі жыве чалавек, заўсёды з ім песня побач. Як кажа народная прымаўка "Як песню пачую, на ўсё забуду", "Песня лечыць душу", "Без песні хоць трэсні".

Усё ад роднай зямлі, ад каранёў нашых, ад бабулі, матулі. І які б час не быў цяжкі, а песня будзе гучаць. Час нараджае новыя песні, прымаўкі, прыказкі. Але ўсё ад роднай мовы, ад фальклору беларускага народа. Сягоння спяваюць, гуляюць вяселлі, святкуюць, як у час Айчыннай вайны спявалі ў зямлянцы, спявалі песні таго цяжкага часу ліхалецця, цяпер пяюць і пець будуць:

*Цячэ вада ў ярок,*
*Цячэ вада ў ярок.*
*Кладочку занясло,*
*Кладочка тоненька,*
*Вада халодненька.*
*А я малодзенька.*

І сапраўды ад такіх слоў маладзейшы становішся, прыбаўляецца бадзёрасці. З песняй і праца лепш спорыцца. А калі мы спяваем, значыцца будзем жыць! Будзем працаваць! Будзем усміхацца. Будзем берагчы родную мову, песню, абрад. Бо ўсё, гэта залатая часцінка зямлі, без якой ні адзін народ не зможа жыць.

*Ад прадзедаў з пакон вякоў*
*Нам засталася спадчына.*
*Паміж сваіх і чужакоў*
*Яна нам ласкай матчынай.*

***Мікола Котаў,***
***навуковы супрацоўнік НДЛ***
***беларускага фальклора БДУ,***
***балетмайтар.***

## Ляцяць буслы Беларусі

*Ой, вы родныя спелыя нівы,*
*Хто вам цвёрдую глебу узняў.*
*Мне прыпомніўся вобраз Скарыны*
*З поўнай жменяй пярлінаў зярнят.*

Так пачынае сваю праграму выступлення тэатр фальклёру "Бераг белых буслоў", які створаны пры моладзевым цэнтры добрачыннага фонду Чарнобыля Генадзя Грушавога ў г. Буда-Кашалёве Гомельскай вобласці. У свой час у станаўленні і жыццяздольнасці гэтага калектыву, вельмі спрыялі нашы землякі- беларусы, што жывуць у Амерыцы.

Фундацыя імя Пётры Крэчаўскага, прэзідэнт доктар гістарычных навук Янка Запруднік і царква Святой Жыровіцкай Божай Маці Беларуска-Амерыканскі грамадскі цэнтр г. Саўт Рывер, прэзідэнт Жорж Навумчык і царква Святой Еўфрасінні Полацкай.

Гучыць мілагучная музыка песні "Каб любіць Беларусь сваю мілую", ляцяць буслы над роднай зямлёй, шырока раскрыўшы крылы, іх павольны ўзмах рук як бы абдымае прыгожую шчодрую зямельку. І раптам хлопцы запелі

*Ой, братка беларус,*
*Чаму ў цябе сівы вус?*
*Ой, рана пасівеў,*
*Бо я долечкі не меў.*

Родная беларуская мова, танцы, спевы, матчын абрад, усё ў рэпертуары тэатру.

Шмат канцэртаў было ў вёсках раёну і ў раёне, на рэспубліканскім фестывалі ў Менску тэатр быў другім у краіне.

Некалькі прадстаўленняў для нямецкіх і сорбскіх сяброў што прывозяць падарункі і гуманітарную дапамогу Буда-Кашалёўскаму раёну, іх дзецям і хворым.

І вось добрая вестка. Нямецкі дзіцячы цэнтр і сорбскія сябры, дбайны, сардэчны, чулы прэзідэнт цэнтра Георг Тыцын, запрасілі тэатр і ўсе выдаткі ўзялі на сябе ў жніўні амаль на месяц з канцэртамі і паправіць здароўе дзяцей, якіх кранула Чарнобыльская бяда.

Тэатр дасць дванаццаць канцэртаў, пryме ўдзел у святах г. Каменц.

Будзе ў Нямеччыне гучаць нашае беларускае слова, песня, танец, жарт, а таксама сорбскія і нямецкія песні і танцы і іх абрад Остэр Райтэн (Вялікодны выез на конях).

Галоўнай нашай мэтай будзе пазнаёміць з народным мастацтвам Беларусі. Расказаць пра традыцыйную культуру Бацькаўшчыны.

***Мастацкі кіраўнік тэатра***
***фальклору "Бераг белых буслоў",***
***навуковы супрацоўнік НДЛ***
***беларускага фальклору БДУ***
***Мікола Котаў.***

## Шляхі фармавання "народнай рэлігіі" і календара: мінулае і сучаснасць

Злучэнне паганскага і хрысціянскага светапогляду навуковая літаратура называе "народным праваслаўем", "праваслаўным паганствам", "бытавым праваслаўем", "праваслаўна-паганскім сінкрэтызмам", "народнай рэлігіяй". Вельмі ўдала пра гэтую з'яву сказала А. Ф. Някрылава: "Народнае праваслаўе не ёсць механічнае злучэнне двух светапоглядаў, калі без асаблівага напружання вылучаюцца элементы паганскіякія і хрысціянскія. Перад намі з'ява, якая хутчэй нагадвае незваротную хімічную рэакцыю, дзе ў выніку злучэння двух рэчываў атрымліваюць трэцяе, са сваімі, толькі яму характэрнымі асаблівасцямі.

Асаблівa яркa паганска-хрысціянскі комплекс адлюстраваўся ў беларускім народным календары. Гэта – адна з форм духоўнага жыцця нацыі, сістэма святаў, прысвяткаў, абрадаў, гульняў, ігрышчаў, пэўных дзён забарон, што замацаваны ў быце і фальклоры беларусаў праз злучэнне паганскага і хрысціянскага пачаткаў і з'яўляецца арыенцірам пры выкананні сельскагаспадарчых і іншых работ і адпачынкаў у гадавым, сезонным, месяцавым цыклах, утрымліваюць традыцыйныя феналагічныя, метэаралагічныя, аграмагічныя, астралагічныя і іншыя каляндарныя веды, атрыманыя эмпірычным шляхам.

Наяўная навуковая літаратура спецыяльна не вылучае асноўныя гістарычныя фактары, якія актыўна садзейнічалі на тэрыторыі Беларусі паганска-хрысціянскаму комплексу, сумяшчэнню дахрысціянскай і хрысціянскай культур, развіццю, так званай, народнай рэлігіі і фармаванню народнага календара, такога багатага, адметнага і найбольш кансерватыўнага сярод славянскіх і еўрапейскіх народаў.

У працэсе фармавання народнага календара, народнага двухвер'я прысутнічалі пэўныя прынцыпы. Да іх адносяцца: прымеркаванне датаў хрысціянскага календара да свят і ігрышчаў – паганскага, а таксама фальклярызацыя, хрысціянізацыя, паэтызацыя і кансервацыя.

Асноўныя фактары наступныя:

- сацыяльна-палітычны, які заключаўся ў спрыяльных умовах старажытнабеларускай дзяржавы – ВКЛ (талерантныя адносіны да дзядоўскай веры, кампрамісны характар уніі, адносна вольнае існаванне іншых верабызнанняў; неспрыяльныя ўмовы развіцця нацыянальнай культуры, мовы, калі даводзілася адасабляцца ад чужароднага ўплыву);
- прыродна-геаграфічны (памежнае становішча сярод заходняй і ўсходняй цывілізацый; як рэгіён, што з'яўляўся часткай парадзімы славян ці блізка да яе; балотна-лясная глухамань, якая абмяжоўвае стасункі паміж іншымі народамі);
- традыцыі братчыны ў правядзенні святаў свечкі;
- развіццё кірмашоў і мясцовых фэстаў;
- дзейнасць скамарохаў, якая не так моцна ўдушалася, як у Расеі;
- бытаванне валачобніцтва, якога не наглядалася ў іншых народаў, і больш вольнае развіццё даўніх абрадаў і звычаяў;
- пакланенне родаваму абразу, мясцоваму святому, князю (св. Еўфрасіння Полацкая, св. Барыс);
- пакланенне паганскім культам і наступная замена іх на хрысціянскія святыя месцы (камяні, крыніцы, могілкі, поле і г.д.);
- прымяненне "педагагічных прыёмаў" у хрысціянізацыі, падобнасці ў рэлігіях і інш.

Як паказвае гістарычны досвед і сучасны стан адраджэння (РПЦ пакуль робіць так, каб свядомыя беларусы не прынялі яе), на нашу думку, памежнай Беларусі больш імпануе ўніяцтва, пашырэнне пратэстантызму, прызнанне аўтакефальнай праваслаўнай царквы.

***Алесь Лозка, прэзідэнд РГА***
***"Таварыства беларускай школы",***
***дацэнт БДПУ***



Музей Івана Мележа ў Глінішчанскай сярэдняй школе Хойніцкага раёна наведалі першыя выканаўцы роляў Ганны і Васіля ў спектаклі "Палеская хроніка" на сцэне Акадэмічнага тэатру імя Янкі Купалы народныя артысты Беларусі Лілея Давідовіч і Генадзь Гарбук. Расчуленыя да слёз захаваўшымся тут здымкам, на якім яны здымаліся пасля пастаноўкі сотага спектакля разам з Мележам, артысты на гэты раз сфатаграфаваліся разам са школьнікамі-землякамі пісьменніка.

*Фота Сяргея Халадзіліна, БелТА.*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:*** ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:*** № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:*** 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:*** 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by

***Рэдакцыйная калегія:***
Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзеных інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 25. 06. 2001 г.
Наклад 4600 асобнікаў. Замова № 1445.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 274 руб., 3 мес.- 822 руб.
***Кошт у розніцу:*** 70 руб.